


Беларускі
ПЭН
Цэнтр

# Культурны супрацiў у Беларусi

**выпуск 20 (33)**

**25 траўня 2021**

***Тыдзень прайшоў пад цёмнай хмарай цяжкіх падзеяў. Усё складаней знаходзіць словы, каб гаварыць пра гэта.***



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА



**Юлія Чарняўская – навуковец, празаік, драматургіня, кандыдатка культуралогіі, былая прафесарка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, спецыялістка па культурнай антрапалогіі, аўтарка кніг па культуралогіі, а таксама п’ес, раманаў, аповесцей, сябра Беларускага ПЭН-цэнтра – была затрыманая 18 траўня, падчас атакі на медыя рэсур tut.by і яго каманду, і блізкія не ведалі, дзе яна знаходіцца. 20 траўня, пасля шырокага рэзанансу, з’явілася інфармацыя, што спадарыня Чарняўская знаходзіцца на допыце ў Дэпартаменце фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю. На дадзены момант яна пад хатнім арыштам.**

**Ксенія Тырсікава, арт-менеджэрка, была затрыманая нібыта за ўдзел у жаночай акцыі 12-га траўня і асуджаная на 15 сутак адміністратыўнага арышту.**





**Ігнату Сідорчыку, паэту, актору і рэжысёру, пакінулі прысуд без зменаў: 3 гады «хіміі».**

Фота з сацсетак

**Ігару Банцару, музыку і грамадскаму актывісту, пакінулі прысуд без зменаў: 1.5 года «хіміі».**





**Уладзіміру Гундару**, краязнаўцу і вядомаму актывісту з Баранавічаў, прысудзілі тры гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму (арт. 366 Крымінальнага кодэкса – гвалт альбо пагроза ў дачыненні да службовай асобы, якая выконвае службовыя абавязкі, ці іншай асобы, якая выконвае грамадскі абавязак).



**Мію Міткевіч**, культурную менеджэрку, асудзілі на тры гады калоніі за допісы «ВКонтакте» пра міліцыянтаў.



У **Анатоля Кудласевіча**, пісьменніка і актывіста, супрацоўнікі КДБ 20 траўня правяліператрус (ён цягнуўся 5 гадзін, канфіскаваны кампутар і іншыя носьбіты інфармацыі) і правялі допыт у якасці сведкі па справе Аўтуховіча.

Генеральны Пракурор Беларусі Андрэй Швед заявіў, што **пракуратура** шукае адказных за генацыд беларусаў сярод літоўцаў і палякаў і рыхтуе адпаведныя дакументы, якія накіруе ў гэтыя дзяржавы.

**Дзяржаўная прапаганда** працягвае дыскрэдытаваць незалежную беларускую культуру. У адной з публікацый выказваецца пагроза арганізацыям-заснавальніцам літаратурнай **прэміі імя Наталлі Арсенневай** (гэта Беларускі ПЭН-цэнтр, Саюз беларускіх пісьменнікаў і Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына».




Партнёрамі прэміі выступаюць Фонд культуры і адукацыі Орса-Рамана і Беларускі Харытатыўны Траст), а самі арганізацыі называюцца «фашысцкімі», таксама прагучалі абразы ў бок сяброўкі журы Ганны Севярынец і самой патронкі прэміі – паэткі Наталлі Арсенневай.

# 2. СІМВОЛІКА

**Працягваецца пераслед і пакаранне за бел-чырвона-белыя колеры і сімволіку.**




**ГУБАЗіК выступае з ініцыятывай па ўключэнні БЧБ-сцяга ў спіс нацысцкай сімволікі ў як мага больш кароткія тэрміны.**

# 3. ТРАГЕДЫЯ ЗА КРАТАМІ

**Вітольд Ашурак,**
**палітзняволены, грамадскі актывіст, які шмат рабіў дзеля захавання гістарычнай памяці, палітзняволены, 21 траўня памёр у калоніі Шклова, дзе адбываў пакаранне – 5 гадоў зняволення. Афіцыйная прычына – прыпыненне сэрца. Удава Вітольда, аднак, сцвярджае, што раней у яго не было праблем з сэрцам. Родныя не атрымлівалі ад Вітольда лістоў з канца красавіка. Раней у сваіх лістах актывіст распавёў, што зняволеных па палітычных артыкулах у калоніі пазначаюць жоўтымі меткамі.**
**Вечарам 22 траўня ў Лідзе (дзе жыў Вітольд) затрымлівалі людзей, якія неслі свечкі да Фарнага касцёла, каб ушанаваць памяць загінулага.**

# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ

**Мастацтва ў падтрымку TUT.BY**







[Ві Валюкевіч](#)

[Лізавета Ганчарова](#)






[Аня Радзько](#)

[Вольга Якубоўская](#)

**Вядомыя беларускі зняліся для фотапраекта ў нацыянальных строях.**





**Вольныя Купалаўцы**

**23 траўня паказалі легендарны спектакль «Паўлінка» – са шчаслівым канцом.**
**Першы раз спектакль быў пастаўлены тэатрам у акупацыі 23 траўня 1944.**
**Сёння ён ставіцца тэатрам у выгнанні…**




ПАЎЛІНКА

Янка КУПАЛА






**Спектакль «Імжа» паказалі анлайн акторы і акторкі, звольненыя з Новага драматычнага тэатра восенню.**

**34mag.net выпусцілі фільм «Мастацтва на маршы». Гэта аповед пра тое, як беларусы раптам палюбілі сваіх артыстаў, а многія адкрылі артыстаў у сабе.**










**У падтрымку рэпрэсаваных культурных дзеячоў, беларускі пісьменнік Саша Філіпенка ахвяраваў на дабрачынны аўкцыён тры выданні сваіх раманаў, якія падпіша персанальна для пераможцы аўкцыёну.**

# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ

**Ліля Квацабая**, мастачка:
***«Новае пакаленне будзе будаваць Беларусь наноў, такую, у якой хочацца жыць і якой хочацца ганарыцца. Яны ўжо гэта робяць. Яны – гэта дзяўчынка, якая піша на асфальце «Жыве Беларусь». Гэта хлопец, які збіраў подпісы за кандыдата ў прэзідэнты і сядзіць у турме. Гэта мастачка, якая ўдзельнічала ў пратэсце з дзёрзкім крэатыўным плакатам. Гэта ўсе мы».***





**Вольга Калацкая**, перакладчыца, **якой прысудзілі 2 гады «хатняй хіміі»:**
***«Мне здаецца, нам усім цяпер вельмі важна, замест таго каб заганяць сябе ў нуду, сесці і цвяроза, спакойна прааналізаваць, што мы зрабілі не так. Чаму мы мелі велізарны, фантастычны, каласальны патэнцыял пратэсту ў жніўні, канкрэтна 16-30 жніўня, але дазволілі сабе яго змарнаваць».***

**Наталля Каляда**, **праграмная дырэктарка Creative Politics Hub, арт-дырэктарка Беларускага Свабоднага тэатра:**
***«Дэмакратычныя змены, якія павінны былі адбыцца ў жніўні, не адбыліся. І мы падышлі да моманту, калі існуе адзіны варыянт, каб спыніць усе рэпрэсіі ў Беларусі. Гэта палітычная смерць Лукашэнкі ад тысячы маленькіх стратэгічных, палітычных парэзаў».***



# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ



**Ва Украіне паставілі забаронены ў Беларусі спектакль паводле рамана Сашы Філіпенкі «Бывший сын».**

**18 траўня адбылася анлайн-гутарка «Стан свабоды творчасці», арганізаваная Асацыяцыяй па пытаннях культурнай палітыкі Германіі. У ёй таксама ўзяла ўдзел беларуская паэтка і перакладчыца Ганна Комар, якая распавяла пра стан свабоды творчасці ў Беларусі ў 2021 годзе.**



# 7. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**У траўні 3 чалавекі, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**
**Гэта дызайнер і архітэктар Расціслаў Стэфановіч (12 траўня), блогер Павел Спірын (20 траўня), студэнтка і мастачка Кася Будзько (25 траўня).**

**Адрас для лістоў:**
**Кася Будзько і Расціслаў Стэфановіч: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2**
**Павел Спірын: ПК №2. 213800, г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1**

